Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага № 40 грошы.



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

1936 N 6

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Каралеўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 4 зл., на паўгоду — 2 зл. — гр., на 3 мес. — 1 зл. — гр.

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.



## ЗЬМЕСТ:

# Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі.

Амаль ня кожны дзень пошта прыносіць лісты і пісулькі з запытаньнямі, чаму ня выходзіць „Беларуская Борць“. Прычына павінна быць для ўсіх зразумелая: **ня было на гэта грошы!** Ня трэба забывацца, што „Беларуская Борць“ не належыць да ліку тых часапісаў, што дастаюць дапамогі, а існуе выключна з тых мізэрных складак, якія атрымлівае ад сваіх надпішчыкаў. Паміма, што „Беларуская Борць“ не аплачывае, ні сваіх супрацоўнікаў ні складу Рэдакцыі і Адміністрацыі, бо ўсе працуюць ганарова, атрымліваных складак не хапае нават на паперу і аплату друкарні.

Помніце гр. гр. чытачы і прыхільнікі, што „Беларуская Борць“ гэта Ваша ўласнасьць! і ад Вас саміх залежыць яе існаваньне: Сёлета, калі сэзон быў добры, пчолы далі Вам даход, не забывайцеся аб сваім абавязку падтрымаць „Беларуск. Борць“ паскольк і яна Вам патрэбная і дарагая.

Аплачывайце складкі, складайце ахвяры на Прэсавы Фонд і прыдбайце хоць па аднаму платнаму падпішчыку.

**РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ.**

---

# Беларуская Борць

Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

№ 6 ВЕРАСЕНЬ 1936 г. ГОД III.

## — КООПЭРАЦЫЯ. —

Калі капіталістычныя прадпрыемствы цяжка перажываюць сучасны гаспадарчы крызыс і вельмі часта пад яго ўдарамі ня толькі корчацца, але і ліквідуюцца і выкідываюць на вуліцу сотні і тысячы безработных, дык коопэрацыя ў той самы час ня толькі што выяўляе вялікую адпорнасьць ударам крызысу, але наадварот выказывае свой рост, разьвіцьцё і дае гэтым доказ сваей жыцьцяздольнасьці нават у варунках крызысаў.

Так коопэрацыя ў Польшчы ў апошнія гады крызысу здабывае ўсё новых і новых прыхільнікаў, павялічываецца лік коопэратываў, узмацоўваюцца і разьвіваюцца старыя. У Польшчы да 11 рэвізыйных саюзаў належыць 5293 крэдыт. кооператываў, 4782 гандлёвых, 1275 вытворчых і 915 іншых. У кооперацыі аб'еднана 3.411 тысячаў сяброў, а разам з сем'ямі, лічучы па 4 асобы на сям'ю, коопэрацыя абслугоўвае каля 11 мільёнаў асобаў. Коопэрацыя ў Польшчы нават у часы крызысу мае досыць вялікі абаротны капітал — 1.115 мільёнаў злотых, у тым ліку ўласных капіталаў 226 мільёнаў зл. Удзел коопэрацыі ў прадукцыі выносіць больш 100 мільёнаў злотых. У загранічным гандлю ўдзел коопэрацыі выносіць больш 500 мільёнаў злот. У экспорце некатарых прадуктаў коопэрацыя пакрывае 50% усяго вывазу, а ў экспорце масла, дык нават 92%. Малачарскія коопэратывы раўняюцца 35% усіх існуючых у Польшчы малачарняў, а перарабляюць яны 66% усей колькасьці малака.

У Англіі, бацькаўшчыне сучаснай спажывецкай коопэрацыі, спажыв. коопэр. налічываюць каля 7½ мільёнаў сяброў, што разам з сем'ямі дае каля 30 мільёнаў, якіх абслужывае коопэрацыя. Абароты Ангельскай коопэрат. гуртоўні ў 1935 годзе выносілі каля 100 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў ці каля 2½ мільярдаў злотых. У Францыі коопэрацыя аб'еднывае каля 2½ мільёнаў, а разам з сем'ямі каля 8 мільёнаў асобаў. Коопэрацыя абхапіла больш 12% гандлю спажывецкімі прадуктамі, мае больш 9000 крамаў, абарот якіх выносіць каля 4 мільярдаў франкаў (франц. франк = 35 грошам).

У Даніі коопэрацыя зьяўляецца галоўнаю формаю народнае гаспадаркі. Пры 3½ мільёнах насельніцтва ў Даніі ёсьць 210 тысячаў зе-

мляробскіх гаспадарак. У Даніі ёсьць 5000 земляробскіх кооперат., якія аб'еднываюць 584 тыс. сяброў і 1824 спажывецкіх — 329 тысячамі сяброў. Дзякуючы моцнай разбудове коопэрацыі Данія вельмі лёгка пераживае сучасны гаспадарчы крызыс.

Размеры артыкулу не дазваляюць зрабіць агляду стану ўладаньня коопэрацыі ў цэлым сьвеце, але і прыведзеныя дадзеныя выразна сьведчаць аб тым, што ў часы агульнага крызысу ідэя коопэрацыі ня толькі не банкрутуе, а наадварот узмацоўваецца і пашыраецца, абхопліваючы ўсё новыя і новыя масы насельніцтва, якія ў нармальных варунках жыцьця былі да яе роўнадушнымі, а часта нават і варожымі.

У чым-жа сіла коопэрацыі? Што цягне ў яе рады? Адказ ясны. У радах коопэрацыі знаходзяць усе хоць некатарае палягчэньне сваей цяжкой долі, якую нарадзіў крызыс.

Коопэрацыя ў яе сучасным відзе, з сучаснай ідэалёгіяй нарадзілася не ў часы гаспадарчага росквіту, а наадварот у часы цяжкога крызысу, у часы безработоцьця. Першымі ідэалёгамі сучаснай спажывецкай коопэрацыі былі работнікі ткацкіх фабрыкаў у Рачдэлі (Англія), якія адважыліся на гэта пасьля няўдалай эканамічнай забастоўкі ў канцы 1843 году. У цяжкіх варунках жыцьця, кіраваныя думкамі паправы сваей долі, распачалі яны гэту вялікую справу і паказалі ўсяму сьвету, што можна зрабіць „узяўшы свае справы ў свае рукі". — Гэты лёзунг Робэрта Пэля быў праводнай зоркай Рочдэльскіх ткачоў.

Мы далёкія ад думкі, каб сьцвердзіць, што коопэрацыя зьяўляецца радыкальным сьродкам да палепшаньня быту працоўных у варунках сучаснага грамадзкага ладу. Па нашаму коопэрацыя зьяўляецца толькі адным з спосабаў барацьбы працоўных за свае правы на людзкое жыцьцё. Коопэрацыя, у рамках капіталістычнага ладу, памагае працоўным хоць крыху палягчыць сваё існаваньне.

Пры карысьці гаспадарчага характару коопэрацыя мае яшчэ вялікае ўзгадаваўчае значэньне. Яна прывучае людзей да арганізаванае грамадзкае працы і выпрацоўвае тып дзеяча, які грамадзкія справы павінен ставіць вышэй за свае ўласныя. Гэтае грамадзкае значэньне коопэрацыі для нас беларусаў павінна быць асабліва цэннае. Ня маючы ўласных школаў, добра і правільна разьвітай сеткі культурна-асьветных арганізацыяў, якія маглі-б хоць крыху запоўніць недахопы школьніцтва, ня маючы магчымасьці ўзгадоўвывацца ў грамадзкай працы ў самаўрадах, мы беларусы зьяўляемся такім чынам пазбаўленымі школы, якая ўзгадоўвае грамадзкага дзеяча. Коопэрацыя, калі мы возьмем яе ў свае рукі, будзе для нас адзінаю школаю грамадзкага ўзгадаваньня.

Апрача таго коопэрацыя павінна прычыніцца і да пашырэньня асьветы і культуры сярод сваіх сяброў.

Вось тая карысьць, якая сьведама і нясьведама цягне ўсіх у рады коопэрацыі.

У нашым беларускм жыцьці коопэрацыя толькі тады зможа выканаць сваё заданьне, калі яна пры ўсім гэтым станецца коопэрацыяй беларускай, народнай, калі яна будзе служыць інтарэсам Беларускага Народу, але ня чужым. Толькі тады станецца яна адным з шляхоў нашае нацыянальна - вызвальнае барацьбы.

Да гэткае коопэрацыі заўсёды імкнецца ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства.

М. Манцэвіч

**Ужо цяпер думайце аб наступным сэзоне: Садзіце мёдадайныя дрэвы і кусты.**



## Пчалярства



А. ВОЙЦІК.

### Праца на пчальніку ў верасьні.

Галоўны медазбор ужо даўно скончыўся, а з канцом яго пчолкі, як добрыя гаспадынькі, пачалі ўжо рыхтавацца на зіму: павікідалі трутняў, заклейваюць, замазываюць шчыліны у вульлі, парадкуюць мёд і г. д. І калі-б чалавек не апекаваўся імі, не забіраў у іх мёду, дык пчолкі самі далі-б сабе неяк раду, як давалі тады, калі ня знали чалавека. Праўда, слабейшыя раі, бязматкі, ды іншыя, менш здольныя і здэгэнэраваныя за зіму адпалі-б, асталіся-б толькі больш прыспасобленыя — моцныя сем'і і такім чынам сама прырода правяла-б сэлекцыю. Але гэтыя часы мінулі беспаваротна, дзікіх пчол няма, а хіба ніводзін пчаляр не захоча, каб у яго пчальніку зіма зрабіла натуральны падбор. Аднак мала не хацець, а трэба памагчы пчолам перазімаваць, не дапусьціць да гаспадараваньня ў нашым пчальніку прыпадкаў і ня даць зьгінуць ніводнай, нават найслабейшай сям'і. Дзеля гэтага слабыя сем'і трэба злучыць з сільнейшымі, стараючыся пры гэтай працы правясьці сэлекцыю, г. зн. злучаючы дзьве сям'і ў адну, нішчыць матак горшых, з такіх вульлёў, якія, хаця і былі мушныя, але мёду не давалі, пакідаць тых, у якіх мухі вельмі шмат ня было, але за тое было шмат мёду, наагул нішчым матак найгоршых, пакідаем найлепшых.

Злучэньне праводзім такім спосабам, што рамкі з мухай слабейшага вульля ўстаўляем у сільнейшы, шчыльна яго перагарадзіўшы дзіркаванай бляхай, або густой сеткай. Далучаных пчол у поле ня пушчаем праз 3—4 дні, каб яны набраліся паху і забыліся пра старое месца. У вульлях, якія адчыняюцца згары можна злучэньне зрабіць ставячы вульлей на вульлей, пры тым сподні трэба закрыць сеткай ці дзіркаваиай бляхай, ды з верхняха трэба забраць матку і заткнуць на 3—4 дні лётку. Пасьля з верхняга вульля пераноў-

сім рамкі з пчоламі ў сподні і пчолы злучаны.

Пры пераглядзе пчол пчаляр вывучыў свой пчальнік, ведае якой сілы ў яго вульлях пчолы і адпаведна да сілы ўкладае гнёзды. Укладаючы гнёзды трэба помніць, што гняздо павінна быць такой вялічыні, якая сам'я ў вульлі: сярэдняя сям'я 6—7 рамак, сільная—10-11. Складаючы гняздо выкідаем рамкі: недацягненыя, папсаваныя, трутовыя, а на іх месца, калі трэба, даем добрыя запасныя з мёдам і нават пустыя, але тады запасы мёду папаўняем ці то ставячы благія рамкі з мёдам за адгародную дошку ці, уважаючы, каб кожная сям'я мела дастатачную колькасьць мёду, проста падкормліваем, даючы толькі, каб у вульлі было ад 8—12 клг. мёду, залежна ад сілы сям'і.

Пры складаньні гнёздаў трэба ведаць, што пчолы сідзяць у сярэдзіне гнязда на адкрытым мёдзе і на пустых чарачках. Вось-жа, калі вынязь з сярэдзіны гнязда рамку, дык яна ўся ня будзе залітая мёдам, але толькі верх і бакі, сярэдзіна ў форме паўкругу будзе пустая. Далей у бакі гэты паўкруг зьмяншаецца і толькі апошнія рамкі будуць залітыя мёдам. Вось-жа пры складаньні гнязда трэба старацца захаваць гэты натуральны парадак рамак

Упарадкаваўшы гнёзды, калі гэта яшчэ ня зроблена зараз па сканчэньні галоўнага мёдазбору, забясьпечываем пчолы ад нападу, замазаўшы ўсе шчэлкі наступнай замазкай: палова жытняй мукі на палову сухога жоўтага, мяккога пяску разьведзеных такой колькасьцю вады, каб атрымаць густую сумесь, і ў слабейшых вульлях звужваем вылет на 1—2 пчалы. Уся гэтая праца павінна быць скончана да 20 верасьня, каб пчолы перад наступленьнем холаду змаглі ўпарадкаваць вульлей на зіму.

---

# Які вульлей найлепшы?

(Працяг).

11) Вульлей павінен быць збудаваны так, каб можна было лёгка і выгадна адбіраць мёд. Гэта мае вялікае значэньне ў часе галоўнага збору, калі перарыў работы пчолам на адзін дзень можа быць прычынай страты 8 клг. мёду. У вульлях, у каторых доступ пры рабоце цяжкі, у часе такіх работаў бязумоўна пчаляр толькі наробіць шкоды ў вульлі, што пчолы за адзін дзень не давядуць яго да ладу.

12) Магазын павінен быць у кожным стандартным вульлі так уладжаны, каб быў якнайбліжэй дзеткі (чарвы), інакш пчолы не пяройдуць у яго. Тут трэ' успомніць аб некатарых закідах польскіх пчаляроў адносна да рамкі нізка-шырокай, што яна дае фактычна магчымасьць свабодна развіваць дзейнасьць маткі, але з прычыны чарвы пчолы ня могуць сабраць запасаў на зіму і змушаны галадаваць зімою. У адказ такім безпадстаўным закідам магу паклікацца на сваю пчалярскую практыку ў вульлях з рамкамі нізка-шырокімі. Ніколі не здаралася, каб пчолы галадавалі зімою, а летам давалі куды больш мёду ад іншых сыстэмаў, каторыя таксама маю ў сваім пчальніку.

Усім вышэйапісаным асаблівасьцям добрага вульля адказвае, як

гэта пераканаўся я ў сваей практыцы, вульлей стандартны Дадана Блятта. Не памогуць тут дускусыі і варожыя адносіны да ўсяго, што чужое, а перадусім амерыканскае, трэ' даць справядлівасьць, што вульлей Дадана найбольш прыстасаваны да натуральнага жыцьця пчалы і вельмі выгадны пры ўсялякіх пчалярскіх работах, найбольш дае (у маім пчальніку) мёду.

Ад сябе радзіў-бы адно. Вульлей Дадана Блятта для нашых багацейшых ваколіц трэ' канешна пашырыць да 15 - 16 рамак, захоўваючы ўсё іншае бяз зьмены. У пашыраным вульлі лепш пчолы зімуюць (цяплейшы!), летам большая сіла і больш мёду. Дзеля таго ў нашым пчальніку цяпер ужываюцца толькі вульлі Дадана Блятта пашыраныя да 15—16 рм. і прызначаныя на прадукцыю мёду. Для лепшай ілюстрацыі прывяду тут некатарыя дадзеныя з запісной кніжкі свайго пчальніка. Вульлей Дадана Блатта нармальны на 11 рамках № 1 даў у працягу свайго існаваньня такі рэзультат свае працы:




Вульлей Дадана Блятта пашыраны № 4 ад 1928 году, гэта меньш больш у тым-жа часе даў лепшы рэзультат.




З гэтых двух табліцаў ясна відаць, што вульлей Дадана Блятта пашыраны даў лепшы вынік і гэта ня толькі № 4, але ўсе іншыя меньш больш аналягічна паказваюць таксама і па зіме заўсёды лепш выходзяць вульлі пашыраныя. У пашыраных вульлях ніколі не сьцьвярдзілі па зіме сырасьці і плесьні, што здараецца ў вульлях нармальных Дадана. Для заакругленьня трэ' яшчэ ўспомніць, што старыя сыстэмы, як Левіцкага, Варшаўскі, Бжускі, Славянскія і калоды даюць саўсім мала мёду. І так Левіцкага ў найлепшых гадох больш ня даваў як 20 клгр. мёду, Варшаўскі Бжускі максімум у 1932 г. 30 клгр., у 1935 г. ледзь 15 клгр. Калі Дадана Блятта 80 клгр. Аб калодзе ня варта ўспамінаць, у нас больш не давала ніколі як 5 клгр. мёду.

Барацьба за сыстэмы вульлёў ідзе далей, беларускі бортнік павінен выбіраць і выбраць што найлепшае!

*Вацлаў Папуцэвіч.*

Альшанка Малая 19.IV 1936 г.

# Пакаваньне і перахоўваньне мёду.

Паводле атрыманых вестак пагода сёлета была добрая, мёдазбор выпаў нязгоршы. Мёд ужо выбраны, у той ці іншы спосаб вытрасены з плястраў. Цяпер ідзе аб тое, як яго апакаваць, г-зн. у што зьліць і дзе трымаць, каб ён ня страціў сваіх вартасьцяў. Калі мёд быў выбраны сьпелы, то добра, але калі ён рэдкі, мае ў сабе шмат вады, то ня можна яго зьліваць адразу ў бочку, або іншую пасудзіну, а трэба раней сгусьціць. Дзеля гэтага трэба паналіваць мёд у плоскую шырокую пасудзіну, прыкрыць марляй і паставіць у чыстай, пустой, правеўнай хаце на сонцы. Вада выпарue і мёд сгусьцее, а тады ўжо можа быць зьліты ў бочкі ці нешта іншае. У нас найчасьцей мёд трымаюць у бочках. Пасудзіна гэта добрая, калі будзе выробленая акуратна з адпаведнага дрэва. Найбольш адпаведнае дрэва ліповае або нават асінавае; з яловага або сасновага рабіць ня можна, бо мёд нацягнуў-бы смалістага паху і смаку.

Бочкі павінны быть аднэй устаноўленай вялічыні, напр. на 25, 50 і 100 кг., даволі лёгкія, каб іх вага раўнялася 10% вагі брутто, а ў сярэдзіне мусяць быць гладка выгабляваныя. Каб быць зусім пэўным, што бочкі не пацякуць, трэба іх у сярэдзіне пакрыць тоненькім пластам воску. Для апакаваньня малых колькасьцяў мёду надаюцца г. зв. „бляшанкі“, але яны даволі дарагія: напр. на 10 кіл. каштуе 2 зл. 50 гр., хутка—нішчацца і трацяць добры выгляд.

Апрача таго яны мусяць быць таксама ў сярэдзіне пакрытыя пластам воску, бо інакш мёд ад бляхі псуецца. Выймаць скрысталізаваны мёд з бляшанак вельмі трудна.

— Трэба ўспомніць, што нашы пчаляры вырабляюць яшчэ на мёд г. зв. „ліпаўкі“, бочачкі рознай вялічыні з аднаго куска дрэва з устаўленым дном. Але на іх трэба мець адпаведны матарыял, які ня ўсюды знайсьці можна. Ніводная з пералічаных пасудзін не адпавядае ўсяцэла тым вымаганьням, якія ставяцца пчалярамі.

Якія-ж гэта вымаганьні? А вось, пасудсіна на мёд павінна быць:

1) Танная, 2) лёгкая, 3) гігіенічная (здаровая), 4) прыгожага выгляду, 5) практычная і трывалая; хаця пункт пяты адпадае пры пасудзіне выняткова таннай.

І вось, шукаючы адпаведнага матэрыялу, практычныя амэрыканцы зьвярнулі ўвагу на паперу. Робяць яны мяшкі з грубой паперы (хіба пэргамінавай?—Рэд.) нават на 50 кіл. мёду. Купец разразае мяшок і мае блёк мёду, які пры помачы тонкага дроту дзеліць на кускі пажаданай вялічыні.

Нешта падобнае прыдумаў польскі пчаляр Л. Качмарак і апісаў свой помысл у часапісі „Бартнік Велькопольскі“ (№ 6 год 1935).

Уважаючы гэты вынахад за вельмі практычны, лічу патрэбным пазнаёміць з імі і нашых пчаляроў.

Зрабіў вышэйуспомнены пчаляр скрынку з ліповага дрэва вялічыні 30 × 20 × 20 цм. якая зьмяшчае 12 літраў = 1 1/2 кіляг. мёду. Мёд меў заняць крыху меньш мейсца, але гэта было патрэбна, каб ня выліваўся пры пераносцы.

У гары скрынка расшыралася на 1 цм., каб лягчэй было выняць скрысталізаваны (сеўшы) мёд.

Перад зліваньнем мёду, выложыў скрынку гладка пэргамінавай паперай (папера павінна шмат выходзіць за берагі скрынкі, каб сеўшы мёд можна было запакаваць зьверху) і ўліў азначаную колькасьць мёду.

Калі мёд скрысталізаваўся, перавярнуў скрынку на падложаную паперу, стукнуў пару разоў і са

скрынкі выпала роўная гладкая цаглінка цьвярдога мёду.

Для перасылкі блёкі мёду пакуюцца яшчэ раз у пэргамінавую паперу і тады па некалькі ў звычайную скрынку хаця-б ужываную, абы чыстую і бяз паху.

Бяручы пад увагу, што скрынкі да ўліваньня мёду, лёгка кожнаму зрабіць самому, што можна рабіць іх кожнай пажаданай вялічыні, і што служаць яны толькі да крысталізаваньня, а не перасылкі і дзеля таго мала нішчацца, а тавар пры такім спосабе пакаваньня мае вельмі добры выгляд, радзім нашым пчалярам гэты спосаб застасаваць у сябе, як танны і практычны.

Што тычыцца перахоўваньня мёду, то трэба помніць, што мёд нельга трымаць у вільготным памешчаньні, бо нацягне вады, а таксама ня можна трымаць там, дзе стаіць напр. кіслая капуста, агуркі, газа або гнілыя прадукты з вострым пахам, бо мёд вельмі лёгка іх прыймае і траціць сваю гандлёвую вартасьць.

Наагул ніколі ня можна забывацца, што пры пераховываньні мёду і пры рабоце з ім мусіць быць захаваная вялікая чыстата:

1) пасудзіна мусіць быць зусім чыстая,

2) ня можна ў мёд сунуць рук,

3) ня можна есьці мёд лыжкай, якой мёд набіраем,

4) трэба сьцерагчыся, каб не папала ў мёд крошка хлеба, бо ад гэтага ўсяго мёд можа скіснуць.

З В.

---

А. ВОЙЦКАВА

# Што мядуе ў жніўні?

Бядуюць пчаляры. што, як толькі адцьвілі грэчкі, канчаецца медазбор і калі з якой небудзь прычыны не багата цьвіце верас пчолам грозіць безрабоцьце. Безрабоцьце ў пару, калі яшчэ зусім цёпла і пчолы маглі-бы прыгамсі сабраць спажывы на бягучы час, а не зьядаць зімовыя запасы — рэч недапушчальная.

Што можна ад гэтай бяды усьцерагчыся найлепш паказываюць досьледы ў гадоўлі медадаяў. Тут пчолы перарыву ў працы не ведаюць ад вясны аж да позьняй восені. Але цяпер зьвернем толькі ўвагу на тыя расьліны, якія цьвітуць і мядуюць у жніўні.

Ад паловы ліпня да 20 жніўня вельмі багата цьвіла і мядавала турэцкая мэліса (Dracocephalum Moldaricum); ад паловы ліпня да паловы жніўня надзвычайна добра медаваў — Дзед — (Echinops spherocephalus), які паміж іншым трэба сеяць у верасьні зараз пасьля збору насеньня. *) Цяпер праз цэлы жнівень цьвіце іншая адмена дзеда — дакаратыўная, трывалая, вельмі прыгожая (Echinops ritro), якая таксама добра мядуе. Ад пачатку жніўня надзвычаяна багата красуе і вельмі добра мядуе ізоп; не перастае красаваць адзін з найлепшых медадаяў — асацец грэцкі (Echium croeticum); з паміж іншых медадаяў адзначаецца сваімі ружовымі кветкамі — сардэчнік сібірскі (Leonorus sibiricum) і пачынае цьвясьці пасеяная ў канцы чэрвеня — фацэлія (Phacelia tanacetifolia). Зварочывае ўвагу

---

*) Апісаньне Дзеда знойдзеце ў „Бел. Борці“. № 3—36 г.

кожнага пчаляра новая расьліна, якая ня мае яшчэ беларускага назову — Alophantus anisatus. — Лісьцё яна мае падобнае да лісьця крапівы (але не пякучая), кусьціцца ад нізу. ня вельмі густа, але кожная галінка закончаная даволі даўгім коласам кветак дробных ліліёвых, якія густа кружкамі абрастаюць галінку і расьцьвітаюць чародна ад нізу, пры чым колас паступова прадоўжываецца. Цэлая расьліна вельмі моцна пахне ганыжам. Расьліна гэтая шматгадовая (трывалая) але ня ведама яшчэ якой акажацца ў нашым клімаце. Мядуе вельмі добра, асабліва ў поўдзень, і як здаецца будзе яшчэ цьвясьці доўга.

Як бачым, ёсьць медадаі і на асеньнюю пару, трэба толькі парупіцца, каб іх якнайбольш распаўсюджываць, засяваць імі ўсе няўжыткі, пасекі, берагі лясоў, межы і т. д. асабліва там дзе няма нават верасу і пасьля грэчак пчолы ўжо ня маюць ніякага збору.

Трэба адзначыць, што большасьць гэтых медадаяў, а асабліва асацец і дзед лёгка самі рассеіваюцца так, што аднаразовы высілак дасьць добрыя вынікі на доўгі час.

---

## Садоўніцтва і агароднiцтва.

# Як закладаць фруктовыя сады.

Любіць наш селянін мець пры хаце маленькі садочак. але бяда ў тым. што ён, маючы мала зямлі, ну і грошы, ды зразуменьня самое справы, закладае гэты садок найпрымітыўнейшым спосабам. Знойдзе дзе ў лесе ці на полі дзікую яблынку ці грушку, усьцешыцца, што „Бог даў шчасьце“, выдзярэ яе жыўцом ды валачэ дамоў. А дрэўца, тое дрэўца, глянуць страх! Павыкрыўлянае ў усе бакі, аб'едзенае, абгрызенае старое, аброшшае мохам, але дармавое. Прынясе гэткі „шчасьлівец“ дрэўца дамоў, пакліча дзетак і такі ім абразок нарысуе, якія на гэтым дрэўцы вырастуць фрукты сочныя, вялікія, смачныя, што ў дзяцей адразу сьлінка пацячэ.

— Татачка, кажа сынок, а дзе мы яго пасадзім? Можа на бульбянішчы, там зямля добрая і дрэўца хутка будзе расьці. — Ну вось што ўздумаў, мейсца шкада, замінаць будзе. Пасадзім каля плоту на буйку, там усёроўна нічога не расьце, адказвае бацька. — Сказана — зроблена. Пасадзілі, пражыло, прышла пара прышчапілі, шчэп расьце, як на ліха, але бяда. Прыехаў гаспадар з арбы, конь галодны дзе яго пасьпіць? На буйку. Прывязалі каня на буйку да плоту, конь шчэп зламаў. На другі год прышчапілі, але трэба было

ужо зрезаць дзічку каля самай зямлі, у восень пусьцілі авечак, авечкі аканчальна зьнішчалі прышэп, а тым самым, і час і працу гаспадара. Аглядзеў гаспадар сваю шкоду, злаяўся, глянуў з зайздрасьцю на добра пасаджаны, прыгожы сад культурнейшага гаспадара, успомніў, што багатаму чорт дзеці калыша, успомніў сваю ліхую долю, а праўду кажучы шмат не бедаваў, бо ўважаў, што бяз гэтага збытку можна абыйсьціся. Яно добра-б было, каб расло, дзеткі паласавалі-б. але неўрадзіў мак, прабудзем і так.

Гэтак з бядой папалам мог разважаць гаспадар у лепшыя гады, бо што ён не рабіў усё, праўда марна, але аплачывалася і ён мог сяк так пражыць. Цяпер-жа, калі земляробская праца не аплачываецца зусім, у часы інтэнсыфікацыі і рацыянальнай працы, у часы найбольшага высілку на здабыцьцё куска чорнага хлеба так рабіць і разважаць нельга, — гэта праступленьне. У цяперашнія часы кожны павінен дакладна аблічыць, што найлепш і пры наймяншай затраце рабочае сілы аплачываецца ды тое й рабіць.

Аднэй з гаспадарскіх галін, якая лепш аплачываецца зьяўляецца садоўніцтва толькі ведама са доўніцтва добра пастаўленае, разьлічанае на даход, а не ўважанае за збытак, за галіну малаважную.

Той, хто шукае новых шляхоў у гаспадарцы і думае заложыць фруктовы сад, мусіць помніць: 1. Толькі добрыя шчэпы змогуць даць добрыя плады, 2. Дзе і як, ды на якой зямлі пасадзіць фруктовыя дрэва.

Аб тым, якія сарты і якія прышчэпы трэба садзіць мы ўжо пісалі ў „Б. Б", з м цы студзень — люты, цяпер мы напішам, дзе і як ды на якой зямлі садзіць фруктовыя дрэва.

Калі зямля гліністая ці глініста-пяшчаная і прытым высокая, ня мокрая, дык на ей добра будуць расьці грушы, чарэшні і яблыні. Чарэшні добра ўдадуцца таксама на зямлі глініста вапнянай, а яблыкі нават добра растуць і тады, калі зямля гліністая і даволі вільготная, але ня мокрая. На пяшчанай зямлі расьце лепш толькі адна вішня, хаця груша і чарэшня могуць таксама ўдацца, калі ў пяску будзе трохі гліны. Коратка кажучы, калі зямля, дзе будзем садзіць сад са спадам, то на вышэйшым месцы садзім грушы і чарэшні, пасярэдзіне вішні, а ніжэй яблыні і сьлівы. Калі адна палова саду пяшчаная, а другая мокрая, дык на сухой пасадзім вішні, грушы і чарэшні, а на мокрай — яблыні і сьлівы.

На вельмі сухой і пустой зямлі ды на мокрай, залітай вадой ня варта нічога садзіць.

Садзіць прышчэпы найлепш у кастрычніку тады, калі лісьцё пачне асыпацца. Вясной садзіць горш бо дрэўцы ня так лёгка прыжываюць. Толькі на цяжкой і мокрай зямлі лепш садзіць вясной, чым у восені. Ямкі пад дрэўцы трэба капаць загадзя, каб зямля ў іх праветрылася і раскрышылася. Пры саджэньні ў восені, ямкі капаем у пачатку верасьня, а пры саджэньні вясной—перад самымі маразамі і пакідаем адкрытымі на цэлую зіму. Капаць ямкі трэба шырыні 70 цм. — 1 мт. глыбіні 60 — 70 цм. залежна ад якасьці зямлі: калі зямля лепшая, дык вузейшыя і плытчэйшыя, а калі горшая, дык шырэйшыя і глыбейшыя, а гэта дзеля таго, што садзячы на добрай зямлі ям запраўляць ня трэба, а на горшай запраўляем кампостам ці перагноям ды на пяшчанай—глінай.

Садзячы фруктовыя дрэвы зямлі жалець ня трэба і ня трэба думаць, што калі маем маленькі

кусочак зямлі, гусьцей пасадзім, то будзем мець больш пладоў. Густа пасаджаныя дрэвы блага родзяць і хутка сохнуць. У гандлёвых садох яблыні і грушы садзім 15 мтр адна ад аднэй, у аматарскіх 10 мэтраў, вішві, чарэшні і сьлівы 10 — 12 мтр. у гандлёвых а ў аматарскіх 6 — 8 мэтр.

(Працяг будзе)

А. ВОЙЦІК.



А. ВОЙНІЧ.

# Што рабіць у садзе.

Кожны, хто хоча мець добры сад, а ў ім добрыя здаровыя фрукты, павінен аб гэтым садзе дбаць, даглядаць яго ў кожную пару году. У верасьні зьбіраем сьпелыя яблыкі і падпіраем сукі моцна абсыпаныя пладамі. Трэба зьбіраць да чыста ўсе ападкі і лепшыя з іх выкарыстаць дзеля перапробкі (напр. мармаляду, віно і г. д.), горшыя скарміць сьвіньнямі, ці наагул зьнішчыць. Адпадкі падбіраюцца дзеля таго, што чарвякі, якія зьнішчылі апад, пастараюцца вылезьці з яго, узьлезьці на дрэва і далей псуць плады. Апрача таго гэтыя самыя чарвякі ўзьлезшы на дрэва, хаваюцца, пад патрэсканую кару, пераўтвараюцца ў лялячкі і там зімуюць. На другі год у канцы траўня з тых лялячак выходзяць матылькі, якія нясуць яечкі і складаюць іх на овачах і ў лісьці. Кожная самка кладзе каля 80 яечак. Цяпер падумайце, колькі матылькоў вы выгадуеце, калі ня зьнішчыце ападу, а колькі ўлетку будзе чарвей і якую шкоду яны вам у садзе зробяць. Апрача зьбіраньня ападу, трэба яшчэ налажыць на дрэвы павязкі. Павязкі закладаюцца на вышыні 1 мэтра ад зямлі; могуць быць гэта проста перавёслы з саломы, шкуматоў (ганучак) сена, або спэцыяльныя з хвалдаванай паперы, купленыя ў складах насеньня. Павязкі здымаюцца што два тыдні і паляцца разам са шкоднікамі, а на іх месца закладаюцца новыя.

Апрача гэтага зямлю навокал дрэваў трэба абкопываць, успульхніваць, палоць, нішчыць пустазельле, якое абкрадае дрэвы з вільгаці і спажывы. Угнойваць і на'т падліваць вадой не рэкамэндуецца, бо можа, калі будзе цёпла, прадоўжыць рост дрэваў і кружэньне сокаў ды гэтым самым спозьніць дзервяненьне перад зімой галінак, якія з тае прычыны могуць у большыя маразы прымерзнуць.

Усе сухія, зьвялыя пажаўцеўшыя галінкі і сукі трэба абрэзаць, загладзіць раны ды замазаць, а галінкі спаліць, бо пад іх карой могуць быць караеды.

Абрэзаць ваўкі і атожыльле ды таксама замазаць раны.

Л. ВОЙЦІКАВА

# Гадоўля трускавак.

Раней, чым прыступіць да самай справы гадоўлі трускавак, мусім разглядзець пытаньне, каму іх гадаваць? Згары зазначаем, што селяніну з далёкай ад гораду ці мястэчка вёскі гадаваць трускаўкі няма сэнсу. Перасылка ягад на далёкую адлегласьць вымагае шмат стараньня і ўмеласьці, а для ўласнага ўжытку варта хіба садзіць іх там, дзе няма блізка лесу і пажадана мець крыху ягад для дзяцей Затое малазямельным гаспадаром з ваколіцаў гораду, большага мястэчка, або з мяйсцовасьці куды зьяжджаюцца на летнішча, гадоўля трускавак, асабліва добрых, цэнных адменаў, можа даць добры і пэўны даход. Трускаўкі ніколі не падвядуць, бо калі ўраджай невялікі, то цана на іх высокая, а калі добры ўраджай, то хоць цана будзе ніжэйшая, але колькасьць ягад выраўняе зьніжку і сваё возьмем заўсяды.

Трускаўкі найлепш растуць на зямлі глініста-пяшчанай, або пяшчана-глiністай, а таксама на нізкік тарфяных грунтах, але на апошніх трэба рабіць загоны высокія і глыбокія барозны, даваць шмат вапны і моцных навозаў, як сьвежыя конскія, людзкія і птушыныя.

На лёгкай пескавой глебе, асабліва на сухой трускаўкі зусім ня ўдаюцца, або вымагаюць вялікіх укладаў на паліваньне і вялікую колькасьць сьвежага кароўяга навозу з дадаткам вапны. Добрыя вынікі можна мець гадуючы трускаўкі на навіне, пасьля сенажаці, і пасьля ўсіх асыпных, як: капуста, буракі ды бульба.

Найчасьцей практыкуецца гадоўля трускавак пасьля бульбы расьпешкі, бо тады маем зямлю рана ў восені гатовую пад новую культуру, зямлю чыстую ад пустазельля, пухкую і даволі добра ўнавожаную. Добра аднак на азначаны пад трускаўкі кусок, перад самым высаджываньнем флянсаў, даць крыху дробнага, добра перапрэўшага навозу. Можна таксама застасаваць мяйсцовае ўгнаеньне г. зн. навоз, або сьпелы кампост даваць пад кожны кусьцік трускавак паасобку.

Флянсы трускавак можна садзіць, як толькі зямля свабодная г. зн. пачынаючы з ліпня, праз жнівень і верасень.

Чым пазьней садзіцца флянсы, тым яны павінны быць мацнейшыя і з добра разьвітымі карэньчыкамі.

Найлепш купляць флянсы пікаваныя, але дзеля таго, што яны шмат даражэй каштуюць, практычней купіць звычайныя і напікаваць, г. зн. густа назадзіць у сябе на загончыку добрай зямлі або ў рассадніку. Пасьля 2—3 тыдняў, калі флянсы ўзмацуюцца — садзіць на мейсца. Практыкуецца таксама перасаджываньне вясной: напікаваныя ў восені флянсы садзяць на мейсца ў красавіку.

Садзяць трускаўкі або радамі на роўнай плошчы, або на загонах. У першым выпадку радок ад радка павінен знаходзіцца на 70 цм., бо паміж радкамі трэба хадзіць пелючы і асыпаючы; у другім выпадку адлегласьць паміж радкамі даем на 30 цм. і барозны паміж загонамі на 40 цм.

Расьліну ад расьліны садзім ў адлегласьці 30 цм. найлепш у шахаўніцу.

Хочучы, каб флянсы хутка прыжылі і якнайменьш пры перасаджываньні цярпелі, трэба захаваць наступныя асьцярожнасьці:

1) Выкопываць рассаду так, каб пры карэньчыках трымалася шмат зямлі, дзеля чаго садзіць пасьля дажджу або, калі маем рассаду пікаваную, добра яе перад выкопываньнем паліць.

2) Садзіць у сьвежа прыгатаваную зямлю.

3) Садзіць у ямкі і зараз добра паліць, асабліва важна гэта ў сухую пагоду.

— Перад зімой трэба трускаўкі апалоць і як пачнуцца прымаразкі аблажыць зямлю паміж радкамі перапрэўшым навозам, які палепшыць зямлю і забяспечыць карэньчыкі ад вымярзаньня. Трэба толькі сьцерагчыся, каб не засыпаць навозам саміх кусьцікаў, асабліва сярэдзінак, бо тады трускаўкі выпрэюць.

Вясной зямлю паміж трускаўкамі перакопываем так, каб зьмяшаць яе з паложаным у восені навозам, а як пакажацца пустазельле старанна пелем. Вельмі добрыя вынікі атрымаем паліўшы сад два разы перад красаваньнем гнаёўкай з курынага навозу.

Кусьцікі трускавак амаль не адначасна з краскамі выпускаюць г. зв. вусы дзеля далейшага размнажэньня. Хочучы мець сваю рассаду вусоў не абразаем, а калі нам рассада не патрэбная то абрэзываем іх, як толькі пакажуцца вострым нажом; абрываць нельга, бо гэта шкодзіць расьлінам.

Як толькі завяжуцца ягады зямлю паміж кустамі пакрываем сечанай саломай або мохам, каб ягады кладучыся на зямлю ня пэцкаліся.

— Сьпеюць трускаўкі, залежна ад адмены і цяпла ад першай паловы чэрвеня да другой паловы ліпня. Зьбіраць ягады трэба сухія і не перасьпелыя, бо апошнія хутка псуюцца.

Разумеецца аплачываецца садзіць толькі добрыя адмены, бо толькі за такія можна атрымаць высокую цану.

Калі ўзяць, што 1 куст можа даць мінімум 20 грамаў ягад, то зн. 5 к. дасьць 1-н кіляграм, а 1000 кустоў—?00 кіл. Узяўшы мінімальную цану (добрых, вялікіх ягад) 50 гр за кіл. атрымаем з 1000 куст. 100 зл. даходу.

Плянтацыю трускавак трымаем на адным мейсцы 3 гады У першым годзе ўраджай маем малы. У другім, а пры добрым даглядзе і ў трэцім маем поўны збор ягад. Хочучы мець поўны ураджай ягад, кожны год бяз перарываў — кожную восень закладаем новую плянтацыю, паступова касуючы 3-х гадовыя.





# З чужога жыцьця і прэсы.

Украінская коопэратыва „Рій“ дзеля наладжаньня збыту мёду пастанавіла ўтварыць мядовы фонд. Гэты фонд мае складацца з бяспроцэнтовых пазык пчаляроў натурай-мёдам.

Пазыка мае выносіць ня менш 5 кг. мёду і мае быць зьвернена па 5 гадох грашмі або мёдам па істнуючай у той час на такі мёд рынковай цане. Пасуду на мёд на гэту пазыку высылае бясплатна коопэратыва. Перасылка такога мёду да 10 кг. аплачвае пчаляр, а ад 15 кг. кооп. „Рій“. Мёд — пазыку могуць прысылаць сябры і не сябры Т-ва.

Ці ня лепш было-б, каб і беларусы пчаляры гэтак зрабілі, як робяць украінскія, замест прадаваць свой мёд за бясцэнак прыватным гандляром.

Тут мусім адзначыць, што зьбіраньне такіх фондаў рэч ня новая, так разбудоўвалі свае арганізацыі іншыя народы, так павінны зрабіць і мы.

# Вось дык мёдазбор!

„Пчеловодство“ № 4 за красавік месяц 1936 г. падае, што стасуючы мэтад раньняга адройваньня ў 1935 г. загадчык пчальніка калгаса „Промокраіна“ Бірымскага раёну, Краснаярскага краю Шалагін, пабольшыўшы свой пчальнік з 105 вул. на 50 процэнтаў, атрымаў у сярэднім ад кожнае сям'і па 157 кг. мёду і 1 кг. воску, пакінуўшы на зіму на кожную сям'ю па 24 кг. меду. Рэкардовы вульлей даў 298 кг. мёду.

Артем'ев загадчык пчальніка № 5 калгоса „Пчела“ (Дуарскі раён, Краснаярскі край) дастаў па 141 кг. мёду і 0.7 кг. воску. Рэкардовая сям'я № 14 дала 300 кг. мёду. Старшыня калгасу „Пчела“ Пушылов меў пад сваім загадам 7 пчальнікоў, у якіх было 759 вульлёў. У сярэднім кожная сям'я дала па 118 кг. мёду і 0.7 воску, апрача таго пчальнікі пабольшыліся на 50 процэнтаў. Рэкардовыя вульлі (25) у гэтых пчальнікох далі гандлёвага мёду ад 260 да 300 кг. Пчаляры Маршалкін і Акімова ў сваіх пчальніках у Заходняй Сібіры атрымалі па 104 кг. мёду і 1 кг. воску з вульля.

Ў Арэнбурскім краі пчаляр Міляев дастаў па 102 кг. мёду з вульля і пабольшыў пчальнік амаль не на 100 процэнтаў. Рэкардовыя вульлі далі яму па 200 кг. мёду. Ф. Орешкин у Куйбышевскім краі пабольшыўшы свой пчальнік на 117 проц., дастаў з вульля па 99 кг. мёду і 0.5 кг. воску.

Вось дык медазбор, якому пазайздросьціць не адзін з нашых пчаляроў.

# Усячына.

## Крапіва на зімовы корм курам.

Каб куры добра нясьліся мусяць мець адпаведны корм. Да неабходных кормаў належыць усякая зелень. Аб сьвежую зелень зімой вельмі трудна, але лёгка зрабіць сабе запас сушачы крапіву Зжатая ў восені, у жніўні, верасьні крапіва, павязаная ў пучкі і павешаная на падстрэшшы сохне вельмі хутка Зімой абсморгнутае і пакрышанае лісьцё і насеньне запарыць варам, або проста ўсыпаць у гарачую, парану бульбу і даваць курам. Куры ядуць крапіву заўсёды вельмі ахвотна.

## Угнаеньне для хатніх кветак.

Некалькі прыгожых расьлін у вазончыках ня толькі ўпрыгожывае хату, але і прыносіць карысьць, ачышчаючы паветра. Зразумела, што прыгожымі будуць расьліны толькі тады, калі яны добра, буйна растуць, а дзеля гэтага патрабуюць добрай зямлі і адпаведнага ўгнаеньня.

Ёсьць спэцыяльныя мяшанкі штучных гнаёў, прыгатаваныя для вазонавых расьлін. Але на іх трэба выдаць гатовыя грошы, якія ня так лёгка здабыць За тое кожны можа сам сабе прыгатаваць угнаеньне вельмі карыснае, як паказала навука і практыка.

Узяць курынага навозу па палове з перасеяным попелам; навоз высушыць у печы або на сонцы, растаўчы на парашок, зьмяшаць з попелам і гэтым парашком разы 3 у працягу вясны, лета і восені пасыпаць зямлю ў вазонах. Вынікі надзвычайныя.

## Мазь з пчалінага яду проціў рэўматызму.

У аднэй з нямецкіх лябараторыяў у апошнія гады ўдалося зрабіць мазь дзеля ляченьня раўматызму, у якую ўваходзіць праўдзівы пчаліны яд.

Дзеля атрыманьня гэтага яду лябараторыя ўтрымлівае пчальнік з 1000 вульлёў.

Пчолы выпушчаюць свой яд з жыгала на адпаведную паперу, на якую іх садзяць па аднэй.

Больш як сотня дзяўчат, у гумовых рукавічках і сетках у працягу цэлага лета працуюць у гэтым пчальніку пры зьбіраньні пчалінага яду.

Мазь, якая робіцца з гэтага яду, завецца „Форапін".

(Pasieka Pomorska).

## Пер'е і пух з дзерава

У Быдгошчы П. Шмідт апатэнтаваў новую вынаходку — выраб штучнага пер'я і пуху.

Як па сваей вазе і элястычнасьці штучнае пер'е ня будзе розьніцца ад праўдзівага. Вырабляецца яно з кускоў бярозавай кары,

(Wiadomości Rolnicze).

## Фітіна ў прыродзе.

Вельмі часта дактары даюць хворым і слабым, а асабліва дзецям, дзеля ўзмацаваньня і разьвіцьця касьцей, хімічны лек г. зв. фітіну (phytina), які мае ў сабе фосфар у стане лёгкім да ўспрыняцьця чалавечым арганізмам,

Праўдзівай, натуральнай фіціны знаходзіцца багата ў прыродзе ў насеньні некатарых расьлінаў, як напр. маку, мігдалаў, арэхаў, сої, а галоўным чынам у зярнятах сонечніка і гарбузоў.

Дзеля гэтага мацеры павінны заахвочываць сваіх дзяцей есьці зярняткі гэтых расьлін, з якіх дзіцячы арганізм атрымае ў натуральным стане фосфарныя солі, без якіх ня могуць разьвівацца косьці дзіцяці і недахоп якіх адбіваецца ад'емна на ўсім арганізьме.

(паводле „Polskie Zioła").

---

## Зелярскі Коопэратыў у Варшаве.

18 траўня г. г. у Варшаве адбыўся арганізацыйны сход зелярскага коопэратыву, які пашырыць сваю дзейнасьць на ўсю Польшчу.

Пасьля рэфэратаў аб загадах і плянах працы коопэр. адбыліся выбары Нагляднае Рады і Управы.

У склад Нагляднае Рады ўвайшлі прадстаўнікі навукі, фармацэўтыкі і арганізацый грамадзка-культурных. Старшынёю выбраны Старшыня Коопэратыўнай Рады пры Міністэрстве Скарбу п. К. Поміяльскі.

У ўрад выбраны 3 асобы працуючыя ў Варшаве ў галіне зелярства. Др. М. Бэрнэрувна, дыр. Д. Кушэўскі і інж. Б. Пётровіч.

Дачасны адрас Коопэратыву: Варшава I, ул. В. Гурскага 6-1.

---

## Увоз мёду забаронены.

Міністэрства Земляробства забараніла ўвоз:ць у Польшчу чужы мёд. Мёд - жа з Польшчы вывазіць за граніцу можна. Гэтае распараджэньне пчаляры прывітаюць з радасьцю, бо адпадае страх, што чужы мёд саб'е і так нізкую на яго цану.

(„Укр. Пасічнык").

---

# Камунікаты.

Сёлета, як і кожны год ёсьць запатрабаваньні на зярняты дзікіх яблыкаў і грушак. Кожны год прапануем нашым селянам, асабліва моладзі выкарыстаць гэту магчымасьць, зарабіць пару злотых.

Аднак бяз вынікаў.

Адначасна чытаем у газэтах дзесяткі карэспандэнцыяў з наракамьнямі на недахоп якіх небудзь заработкаў...

Дзіўна.

А зярняты дзічак выпісываем з Аўстрыі.

У апошнюю мінуту даведываемся, што з прычыны новага дэвізовага права, увоз насеньня дзічак з Аўстрыі вельмі трудны і дзеля гэтага запатрэбаваньне на краёвае насеньне шмат узрасло. Так напр. адна школка садовых дрэвак патрабуе 200 кіл. насеньня дзікіх яблыкаў; гуртоўні купляюць іх бяз агранічэньня.

Найніжэйшая арыентацыйная цана 6 зл. за кілаграм.

Ад сябе больш не дадаем нічога, астаўляючы напісанае пад развагу самім зацікаўленым. Л В

---

Рада дэлегатаў цэнтральнага Саюзу пчаляроў у Торуні на сваім паседжаньні дня 14.VIII г. г. вынесла пастанову:

1) адлучыцца Цэнтральнаму Саюзу ад Т-ва Кулэк Рольнічых;

2) зарэгістравацца ў адміністрацыйных уладаў, як самастойная арганізацыя,

3) склікаць чародны агульнапольскі зьезд пчаляроў на першым тыдні 1937 г.,

4) прыняць да ведама выступленьне з ЦСБ Ваяводзкага Пчалярскага Т-ва ў Любліне.

На тым-жа паседжаньні Рада Дэлегатаў ЦСПСП выбрала праз аклямацыю Тымчасовую Управу і Рэвізыйную Комісію.

**Не марнуйма ні крышкі воску.**

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Гр. ЯНУ ЦІЛІНСКАМУ. Пробны нумар высланы, чакаем падпіскі.

Гр. КАРПЕЙЧЫКУ ЯНУ. 1 зл. ад Вас атрымалі, дзякуем. „Бел. Борць“ Вам выслана ад нумару 1-га па 5-ты ўключна.

Гр-цы Т. КУЗЬМІЧ. Замест адказу на Вашу пісульку Вам высланы № 4 — 5 „Бел. Борць“, дзе Вы знойдзеце ўсе патрэбныя Вам рады.

Гр. ДУРЫЛА Г. Грошы ад Вас атрымалі, дзякуем. „Бел. Борць“ высылаем.

Гр. ТРЫПУСУ АДАМУ. З тае прычыны, што „Бел. Борць“ ў чэрвені ліпні і жніўні ня выходзіла (не хапіла матэрыяльных сьродкаў), не маглі мы зьмясьціць Вашай абвесткі аб пчаліных матках, а цяпер ужо позна. Вясной трэба будзе даць абвестку загадзя. Завочны курс Вам высланы, насеньне

едадаяў таксама. Аб карэспанэнцыі вельмі просім і чакаем ужо а чароднага нумару.

Гр. ПЯТРУ ГМЫРАКУ. Завочныя курсы высланы.

Гр. Гр. Г. Белевічу, П. Карпенюку. Мікалаю Мурзу, Васілю Карынцу і Алекс. Казеву — грошы трыманы, дзякуем. „Бел. Борцьˮ ысылаем.

Гр. ПІЛІПУ КАРПЕНЮКУ. Шчыа дзякуем за ліст і за спагадлівыя словы. З прыемнасьцю бачым, што не належыце да тых, што олькі стогнуць і наракаюць, а ўланай працай і навукай будуеце сае лепшае жыцьцё. Дзякуем за бяцанку прысылаць карэспандэнцыю. Напішыце, як сабе парадзілі гвільцом. — Пастарайцеся прыдаць нам больш падпісчыкаў, таы „Борцьˮ будзе мацнейшай.

Гр. М. ТЫМАЗАВУ. Пісульку Вашу атрымалі вельмі няхутка, ы якраз падчас перарыву ў выадзе „Бел. Борціˮ. — Хаця адказы на Вашыя пытаньні цяпер зусім не ў пару, але могуць прыгадзіцца на наступную вясну — Белая Морва мядуе даволі добра; лісьцё для гусьвіцаў шаўкапрада карысьнейшае з дрэваў, чым з кустоў, але з кустоў можам зьбіраць лісьцё ўжо на 5 год іх жыцьця, а з дрэваў толькі на 9-ы. Найлепш мець і дрэвы і кусты. Дрэўцы і кусты морвы можна купіць у „Zakładach Hodowli Drzew Państw. Instytutu N. G. W. w Puławach, woj. Lubelskie. Цэннікі можна адтуль атрымаць бясплатна. — Насеньне медадаяў і белай морвы можна выпісаць праз рэд. „Бел. Борціˮ.

Што тычыцца рассады лекарскіх зёлак, то ня можам Вам даць адказу, бо ня ведаем, аб якія зёлкі расходзіцца. Хочучы здабыць веду ў справе збору і сушэньня зёлак, выпішыце нашы Завочныя Зелярскія „курсыˮ. Каштуюць 2 зл. „Бел. Борцьˮ высылаем і чакаем аплаты складкі.

Выдавец-Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.


Bibljoteka
Instituto